“Народную Волю” выдаюць свабодныя журналісты для свабодных людзей.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадо...*
***Якуб КОЛАС***

№ 53 (4305)

6 ліпеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЖИТЕЙСКАЯ ТЕМА

## Правительство приняло постановление №510, которым вносятся существенные изменения в порядок оплаты за жилищно-коммунальные услуги



### Нет горячего водоснабжения – электроэнергия дешевле

– Несколько ущемленными выглядели интересы потребителей, чьи жилые помещения не оборудованы системами центрального горячего водоснабжения и централизованного снабжения природным газом. Пользуясь электрическим бойлером, практически невозможно уложиться в существующий норматив потребления электроэнергии 150 кВт·ч для оплаты по субсидируемым государством тарифам. Поэтому вполне справедливо для данной категории норматив повышен до 250 кВт·ч. Более того, при потреблении от 250 до 400 кВт·ч оплата также будет производиться по субсидируемым тарифам, но с применением повышающего коэффициента 1,3. И лишь при превышении 400 кВт·ч платить придется по экономически обоснованным тарифам.

### Учет тепла – дело решенное

– Как известно, с 1 января текущего года во всех вводимых в эксплуатацию домах жильцы обязаны производить расчеты за тепловую энергию по показаниям приборов индивидуального учета. После вступления постановления в силу стимул для оснащения жилых помещений приборами учета появится и у жильцов домов старшего поколения. Плательщикам, установившим ИПУ за счет собственных средств, при оплате счетов за потребленную тепловую энергию в течение трех лет будет предоставляться 10-процентная скидка.

Отдельный разговор о домах, которые уже оборудованы приборами учета, но часть их жильцов так и не решилась пока пользоваться данными техническими средствами при расчетах. Те из них, кто приведет в порядок установленное оборудование, в течение трех лет в качестве компенсации за понесенные расходы будут оплачивать потребленную тепловую энергию с 5-процентной скидкой. Тот же, кто по-прежнему собирается игнорировать возможность расчетов за тепло по показаниям ИПУ, рискует угодить в категорию безучетных потребителей со всеми вытекающими последствиями.

### Электроснабжение и газоснабжение. Двухадресная субсидия

– Некоторые категории граждан получили право производить оплату за услуги электро- и газоснабжения по субсидируемым тарифам в двух жилых помещениях: по адресу обязательной регистрации по месту жительства и регистрации по месту пребывания. Причем второй адрес можно выбрать по желанию: неважно, что это – квартира в другом городе, дача или дом в садовом товариществе.

К таким категориям относятся неработающие пенсионеры, а также лица, имеющие право на льготы по оплате жилищно-коммунальных услуг в соответствии с Законом Республики Беларусь «О государственных социальных льготах, правах и гарантиях для отдельных категорий граждан» или инвалиды 3-й группы.

Данную норму можно назвать проявлением социальной политики, хотя есть в данном решении и восстановление экономической справедливости. Допустим, пенсионер или другой льготник трудовыми отношениями не связан и может теплое время года проводить в деревне или городском поселке, а на зиму перебираться в благоустроенную квартиру. Раньше по одному из двух адресов он вынужден был оплачивать услуги по экономически обоснованным тарифам. Но ведь от переезда сумма потребления электроэнергии или газа в двух помещениях не изменится.

*(О других изменениях в оплате жилищно-коммунальных услуг – в следующем номере «Народной Воли».)*

ПРАТЭСТ

## «Абарона Курапатаў працягнецца…»

*Пра гэта “Народнай Волі” распавяла грамадская актывістка* ***Ганна Шапуцька****, якая з’яўляецца адной з самых актыўных удзельніц пратэсту супраць адкрыцця рэстарана “Паедзем паядзім” у непасрэднай блізкасці ад урочышча Курапаты.*

Некалькі тыдняў запар да брамы рэстарана прыходзяць актывісты. Яны ствараюць жывы ланцуг, сустракаючы патэнцыяльных наведвальнікаў. Пратэстоўцы тлумачаць, што зусім побач з установай грамадскага харчавання – месца масавых расстрэлаў ахвяр камуністычнага рэжыму. Тлумачэнні прыходзяцца даспадобы не ўсім, і раз-пораз ля рэстарана адбываюцца сутычкі і нават спробы наезду на актывістаў.

Даішнікі і міліцыянты спраўна складаюць пратаколы. Дзеля справядлівасці адзначым, што адміністрацыйныя пратаколы складаюцца як на ўдзельнікаў пратэсту, так і на патэнцыяльных наведвальнікаў, якія парушаюць правілы дарожнага руху.

За час пратэстаў на актывістаў былі складзены дзясяткі пратаколаў, але ўсе яны да пары да часу заставаліся, што называецца, без належнага рэагавання і выканання. Рэакцыя пачалася 30 чэрвеня, на наступны дзень пасля таго, як урочышча ў Курапатах наведалі высокія чыноўнікі некаторых еўрапейскіх краін, што прыехалі ў Беларусь на адкрыццё другой чаргі мемарыяла ў Трасцянцы.

*– Я не думаю, што ад’езд замежных дэлегацый і рэпрэсіі ў дачыненні да найбольш актыўных абаронцаў Курапатаў звязаны,* – гаворыць **Ганна Шапуцька**. – *Напярэдадні затрыманняў была спроба ўсталяваць у Курапатах новыя крыжы, але Зміцеру Дашкевічу не далі іх сюды давезці. 29 чэрвеня “Курапацкая варта” была самай шматлюднай – сюды прыйшло чалавек 50. Мяркую, што затрыманні ўдзельнікаў пратэсту перш за ўсё былі скіраваны на тое, каб збіць вялікі градус грамадскай актыўнасці. Улады ўбачылі, што абарона Курапатаў – гэта ўсур’ёз і надоўга, таму, каб застрашыць грамадства, было прынята рашэнне аб брутальным затрыманні ўдзельнікаў пратэсту. І “крытычная маса” пратаколаў, якая назапасілася ў сілавікоў за час абароны Курапатаў, проста стала нагодай для такога развіцця падзей.*

**– Што сёння адбываецца ў Курапатах?**

*– Варта працягваецца. Сёння* (5 ліпеня. – **Аўт.**) *там дзяжураць актывісты Партыі БНФ. Далей – усё па плане: кожны дзень варту будуць несці актывісты розных дэмакратычных арганізацый. Галоўная задача – дастаяць да таго дня, калі на волю выйдуць асуджаныя за абарону Курапатаў актывісты. Дарэчы, перад затрыманнем адна з актывістак – Наталля Гарачка – сказала, што ў выпадку арышту будзе галадаць у зняволенні.*

*Пасля таго як зняволеныя выйдуць на свабоду, відавочна, будзем збірацца і прымаць рашэнне аб тым, што і як рабіць далей. Раней прынятае рашэнне было такім: працягваць пратэст да канца ліпеня. Яго пакуль і трымаемся.*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

### Каго і як пакаралі за «Курапацкую варту»?

*Затрыманні найбольш актыўных удзельнікаў пратэсту ў Курапатах адбыліся 30 чэрвеня і 1 ліпеня. Іх затрымлівалі людзі ў цывільным, а далей адбываліся суды. Актывістаў судзілі па артыкуле 23.34 КаАП Беларусі “Парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавага мерапрыемства”. У выніку судовых пасяджэнняў судом былі прыняты наступныя рашэнні:*

**Павел Севярынец**, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя”, – 10 сутак арышту;

**Наталля Гарачка,** грамадская актывістка, – 10 сутак арышту;

**Вольга Мікалайчык**, рэжысёр, – 10 сутак арышту;

**Максім Урбановіч,** грамадскі актывіст, – 10 сутак арышту;

**Максім Вінярскі,** грамадскі актывіст, – 10 сутак арышту;

**Аляксей Туровіч**, кінарэжысёр, – 10 сутак арышту;

**Рыгор Костусеў,** старшыня Партыі БНФ, – штраф у памеры 30 базавых велічынь (735 рублёў);

**Вячаслаў Сіўчык**, сябра незарэгістраванага руху салідарнасці “Разам”, – штраф 50 базавых велічынь (1225 рублёў).

### *АД РЭДАКЦЫІ*

Да “Народнай Волі” дайшла інфармацыя, што ўлады абмяжуюць уласнікаў рэстарана “Паедзем паядзім” пэўнымі патрабаваннямі. Ён, магчыма, будзе дзейнічаць не як забаўляльная ўстанова, а як чыста харчавальная. Скажам, той, хто праязджае транзітам па кальцавой, можа спыніцца і падсілкавацца. Альбо: адбылося на суседніх могілках пахаванне нябожчыка – калі ласка, заказвайце трапезу, ладзьце памінальны абед. Але ніякіх гулянак з песнямі і танцамі.

Наколькі інфармацыя, атрыманая рэдакцыяй, акажацца рэальнай – стане вядома ў бліжэйшыя дні.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Где взять миллиард для пенсионеров?

Недавно в парламенте обсуждалось исполнение бюджета Фонда социальной защиты населения. Картина получилась печальная. Возможности фонда выплачивать пенсии без помощи республиканского бюджета снижаются год от года. Тому есть объективные причины. На фоне старения населения снижается численность его экономически активной части. Уменьшаются взносы в ФСЗН в связи с падением средней зарплаты в стране в предыдущие годы. В результате за последний период среднегодовые темпы роста расходов бюджета фонда превышали темпы роста его собственных доходов. Все это привело к отставанию роста пенсий по возрасту от роста номинальной зарплаты. Так, если соотношение средней пенсии к средней зарплате в 2010 году составляло 43,3%, то в 2017-м оно снизилось до 37,6%. По майским данным средняя зарплата по Беларуси была 943,9 рубля, средняя пенсия – 340,5 рубля. Соотношение, как видим, 36,1%. В 2014 году правительство обещало, что средняя пенсия по возрасту будет составлять как минимум 40% от средней зарплаты. Обещало…

Аналитики подсчитали: чтобы упомянутое соотношение было 40%, надо добавить к средней пенсии 37 рублей. С учетом наличия в стране 2.377.364 человек старше трудоспособного возраста в целом за год необходим 1 млрд 56 млн рублей. Примерно такую сумму ежегодно недополучают белорусские пенсионеры. Где же взять этот миллиард? Правительство пошло по самому простому пути – повысило пенсионный возраст и тем самым сократило на какое-то время число нуждающихся в средствах ФСЗН.

Существуют и другие пути решения проблемы. Первый – повысить эффективность экономики. Для белорусской экономики в ее существующем виде эта задача трудновыполнимая. Развитые экономики способны обеспечить содержание пенсионерам в размере 70% от зарплаты. Второй путь – сделать распределение ФСЗН более справедливым. Для чего необходимо перейти от распределительной советской системы формирования пенсионного фонда к накопительной. Этот вопрос давно и обстоятельно обсуждается в СМИ. С советских времен предприятия и работающее население солидарно отчисляют взносы на социальное страхование в ФСЗН. Юридические лица в основном 34% от фонда оплаты труда, физические лица – 1% от своей зарплаты.

Сбрасываемся, как говорится, в один котел, из которого потом получаем сегодня в среднем 340 рублей на сегодняшний день. И не особо важно, кем и в каких условиях ты работал. Или директором солидного предприятия, профессором, или лаборантом, или охранником. Не важно, во сколько раз твоя зарплата превышала среднюю по стране. При помощи системы хитрых коэффициентов работники отделов соцобеспечения, по сути, уравнивают пенсии подавляющего большинства пенсионеров, которые не намного больше минимального потребительского бюджета. Исключение составляют госчиновники, включая депутатов парламента, и силовики. Вот их пенсии могут в разы превышать среднюю по стране.

Накопительные или смешанные пенсионные системы применяются во многих развитых странах. Они предполагают персональные накопительные пенсионные счета, на которые работник делает отчисления в течение трудовой жизни в соответствии с получаемыми им доходами. Больше зарплата – больше отчисления. Помимо этого, существуют и частные пенсионные фонды. Все это в конечном итоге позволяет людям обеспечить достойную старость и справедливое распределение пенсионного фонда по вкладу, который человек внес, работая на благо общества. Возраст выхода на пенсию в таких странах действительно составляет в среднем 65 лет для мужчин и женщин. Но качество жизни позволяет населению доживать до 78–80 лет. В Беларуси, согласно статистике, мужчины в среднем доживают максимум до 65 лет. Вот женщины живут на 10–12 лет дольше. Получается, если правительство Беларуси, глядя на коллег из России, и дальше пойдет самым простым путем решения проблемы и будет повышать пенсионный возраст, то, грубо говоря, чуть ли не половина мужского населения не доживет до пенсии. А намеки на дальнейшее повышение возраста выхода на пенсию уже делаются властями. Так, министр труда в Палате представителей отвесила комплимент присутствующим депутатам мужского пола: «Коллеги, мужчины, 60 лет – это не возраст».

Следовательно, какие-либо реформы в пенсионной системе Беларуси нам в обозримом будущем не светят. Будем утешаться тем, что есть. А на каком свете мы находимся, показывают средние пенсии стран – наших соседей (данные пересчитаны в белорусских рублях): в России средний размер назначенных пенсий составляет 428 рублей, в Украине – 191, в Литве – 724, Латвии – 762, в Эстонии – 984, в Польше – 1159 рублей. Сегодня для многих в Беларуси выход на пенсию становится трагическим событием – погружением в бедность. Особенно когда стариков материально не в состоянии поддержать их дети.

Поэтому о своей старости белорусам надо заботиться с младых ногтей, не рассчитывая на государство. Даже если вы будете откладывать ежемесячно по 10 долларов в эквиваленте, через 40 лет трудового стажа, выйдя на пенсию, будете иметь солидный к ней довесок. Отложенные ежемесячно 20 долларов к этому сроку позволят вам нормально жить только на проценты от отложенной суммы, а саму сумму сможете завещать детям или внукам. И главное: белорусы, особенно мужчины, берегите здоровье, ведите здоровый образ жизни!

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

## «А над расстрелянной песней не плачь…»

В Чили объявлен приговор восьми офицерам армии, лично принимавшим участие в убийстве Виктора Хара.

Его убили в сентябре 1973 года, когда я сам был ребенком, а потому справедливо предположить, что многим нашим читателям не известно это имя. Хара был певцом и, подобно многим музыкантам того времени, придерживался «левых» взглядов. Он поддерживал президента-социалиста Сальвадора Альенде, а потому понятно, что, свергнув Альенде, «правые» путчисты стремились убрать самых популярных его сторонников. В том числе – Виктора Хара.

Его пытали и убили на стадионе, куда согнали тысячи людей, не согласных с переворотом. Согласно легенде, музыканту перед последним – смертельным – выстрелом отрубили руки. Чтобы он, даже мертвый, не мог держать в руках гитару. Сейчас этот стадион носит имя Виктора Хара. О тех событиях написал рок-оперу Александр Градский. Два виниловых диска с записью оперы, в которой участвовали кроме рок-исполнителей Алла Пугачева и Иосиф Кобзон, были и у меня дома. Мы слушали Градского вместе с мамой и плакали.

Шлягером стала песня Игоря Лученка на стихи Бориса Брусникова:

*Больно гитаре – пуля задела,*
*Стынет мотив на высокой волне.*
*Нота сорвалась и заалела*
*Капелькой крови на мертвой струне.*
*Вместе с гитарой счастье убили,*
*Друг, над расстрелянной песней не плачь,*
*Новую песню выстрадай, Чили,*
*А над расстрелянной не плачь.*

Эту песню пели «Песняры» первого, мулявинского, призыва. Ее пел Виктор Вуячич. Белорусские певцы скорбели под музыку белорусского композитора о далеком чилийском певце.

Сейчас я дожил до того времени, когда восемь офицеров чилийской армии – уже в очень преклонном возрасте – осуждены чилийским судом за это убийство. Осуждены на пятнадцать лет; в их возрасте это практически пожизненное заключение. Девятый, некто Педро Барьентос, проживает в США, во Флориде; в 2016 году американский суд удовлетворил гражданский иск членов семьи Виктора Хара и обязал Барьентоса выплатить им как пострадавшим 28 миллионов долларов. Сейчас чилийское правосудие добивается его выдачи, чтобы заставить его отвечать уже на уголовном процессе. Велика вероятность того, что это произойдет.

Я не верил, что дождусь этого приговора.

В интернете мы с друзьями много спорили о чилийских событиях. Среди моих оппонентов есть и те, кто считает: в ходе путча генерал Аугусто Пиночет нарушил Конституцию своей страны и прибегнул к массовым репрессиям для того, чтобы предотвратить гражданскую войну. То есть – чтобы предотвратить еще более массовое кровопролитие. Я так не считаю. Нарушение Конституции теми, кто призван стоять на ее страже, есть государственное преступление, не имеющее срока давности. А кровопролитие невозможно измерить количеством реально пролитой и могущей быть пролитой крови. Бессмысленно измерять непролитую кровь. Об этом мы спорили и продолжаем спорить.

Но когда речь заходила об убийстве Виктора Хара, мои оппоненты замолкали. Все они понимают: эту смерть, жестокие пытки безоружного певца оправдать высшей необходимостью невозможно.

Сейчас в деле об убийстве безоружного человека – одного из многих тысяч людей – поставлена точка. Имя певца Виктора Хара – всего лишь символ того, что забвения нет. Что преступление будет наказано.

Я верю в то, что будут найдены и наказаны убийцы Виктора Гончара, Юрия Захаренко, Анатолия Красовского, Дмитрия Завадского.

Я верю в то, что в Киеве найдут и накажут убийц Павла Шеремета и Олеся Бузины.

Кем бы они ни были, какими бы благими мотивами ни оправдывали свои преступления – забвения нет. Рано или поздно суд будет.

Сейчас, после вердикта, вынесенного убийцам забытого новыми поколениями чилийского певца, – вынесенного преступникам, совершившим свое преступление сорок пять лет тому назад! – я верю в то, что и убийцы вышеперечисленных лиц будут названы и наказаны. И если не им самим, то их детям и внукам придется покаяться в содеянном отцами и дедами. Но лучше, чтобы это покаяние совершили сами убийцы.

Так будет лучше для всех – и для них самих. Это возможно. Я в это верю.

ПАЛІТКУХНЯ

## Моладзь – за Палякова, старэйшыны – за Лябедзьку

У нядзелю адбудзецца справаздачна-выбарны з’езд Аб’яднанай грамадзянскай партыі. А ўчора, 5 ліпеня, аргкамітэт па яго правядзенні правёў апошняе пасяджэнне, на якім высветлілася, што цэнтральная рада маладзёжнай арганізацыі АГП «Маладыя дэмакраты» выказала падтрымку намесніку старшыні АГП **Васілю Палякову**, а старэйшыны партыі, сярод якіх **Станіслаў Багданкевіч, Зінаіда Бандарэнка, Юрый Хашчавацкі, Міхаіл Чыгір** і іншыя, падтрымалі кандыдатуру **Анатоля Лябедзькі**.

Як вядома, прэтэндэнтаў узначаліць Аб’яднаную грамадзянскую партыю чацвёра: **Анатоль Лябедзька**, які займае пасаду 18 гадоў, **Васіль Палякоў**, а таксама старшыня мінскай суполкі АГП **Мікалай Казлоў** і дэпутат Палаты прадстаўнікоў, сябра партыі **Ганна Канапацкая**.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПЕЧАЛЬНАЯ ИСТОРИЯ

# «Вы украли...»

*77 лет минчанка **Нина Григорьевна ЦЫГАНКОВА** слышала о себе только хорошие слова и имела исключительно положительные характеристики, и вдруг оказалась в милиции по подозрению в воровстве. Она уверена: произошла чудовищнейшая ошибка, но, несмотря на алиби, пожилую женщину несколько часов продержали в РОВД и провели в ее квартире обыск.*

– Конечно, мы живем не на необитаемом острове, – *вздыхает дочь Нины Григорьевны **Наталья Кручковская**.* – Слышала и читала истории о том, как наши стражи правопорядка хватали ни в чем не повинных людей. Но никогда не думала, что это может коснуться моей семьи.

Мама 3 июля пошла в магазин «Виталюр» за продуктами. Когда осталась только выбрать хлеб, к ней подошел сотрудник милиции, поздравил с праздником, а потом вдруг говорит: «Продукты можете оставить здесь, в магазине, они вам не понадобятся. Вы задерживаетесь. Пройдемте». Мама спросила, по какому поводу, и услышала в ответ невероятное: «Вы украли сумку». Маму посадили в милицейскую машину и повезли в РОВД. Правда, предупредили: «Не волнуйтесь!» Но как не волноваться 77-летней женщине, которую вдруг задерживает милиция, да еще везет в участок?!

Позже маме и мне (меня вызвали в РОВД) объяснили, что в пятницу 29 июня на остановке общественного транспорта около 73-й школы у какой-то женщины украли сумку. И она опознала в воровке мою маму. Более того, сказали в милиции, камера видеонаблюдения зафиксировала идущую по тротуару около школы женщину в куртке и платочке, по мнению обвинительницы, похожую на мою мать. Лица на видеокартинке, правда, видно не было.

Маму эта информация не просто удивила – повергла в шок. Потому что, во-первых, она никогда не стала бы брать чужое, а эту сумку, насколько мы поняли, у женщины вырвали из рук. Во всяком случае четких объяснений от милиционеров мы не получили: какую сумку украли, как украли, что в ней не было – мы не знаем. Во-вторых, в пятницу 29 июня мама была в деревне (несколько лет назад мы купили там домик под дачу), и этому есть свидетели – наши соседи, с которыми мама ходила в лес за ягодами. Наизусть телефоны соседей она не помнила, поэтому позвонить им сразу из РОВД сотрудники милиции не могли. Хотя у меня есть сомнения, звонили ли они им позже. Как и то, проверили ли они еще одно алиби моей мамы.

Дело в том, что в лес за ягодами мама и другие жители деревни ходят не для того, чтобы наварить варенья на зиму, а чтобы заработать хоть какую-то копейку. Собранную чернику они сдают на заготовку. И в пятницу 29 июня мама собранную ягоду сдавала в сельмаг деревни Дороганово Осиповичского района, выручила за чернику в тот день 30 рублей. Соответствующая запись есть в журнале сельмага. Это же финансовый документ: сколько ягод человек сдал и сколько за них получил денег.

Вместо того чтобы все это выяснить, сотрудники милиции по-быстрому провели у нас в квартире обыск. Понятыми выступили соседи, которых сразу же заявили милиционерам, что моя мама – порядочный человек, она не могла украсть. «Нина Григорьевна более 40 лет проработала медсестрой в районной поликлинике, – говорили соседи, – ее все только хвалили за доброе сердце. А тут – обвиняют в воровстве. Да такого быть не может!»

Естественно, что никакой чужой сумки в нашей квартире не нашли. Хотя осмотрели все – и мои шкафы в том числе (мы живем с мамой вдвоем), открывали даже холодильник и морозильную камеру. Что меня возмутило: эта женщина, которая обвинила маму в воровстве, ходила по нашей квартире, как у себя дома, лазила по нашим шкафам, все высматривала, подмечала. Может, она вообще аферистка какая-нибудь? Я теперь боюсь одна оставаться дома, мало ли кто может заявиться в нашу квартиру.

Мама, конечно, хотела выяснить, кто ее оклеветал. Она эту даму видела впервые в своей жизни. Но данных этой женщины в милиции не сообщили.

Я написала заявление на имя начальника Первомайского РОВД, просила привлечь к ответственности эту женщину за клевету и защитить нашу семью. Заявление у меня приняли, но сказали, что прикрепят его к делу: мол, следствие еще идет, обвинительница, видимо, ошиблась. Перед мамой никто не извинился...

Вся эта история стоила нам здоровья! Мама до сих пор не может успокоиться. Ведь мы абсолютно беспомощны в нашей стране! Нам никто ничего не объясняет, мы не знаем своих прав. Знаете, как меня вызвали в милицию по поводу задержания мамы? Позвонили по телефону, никто не представился, сказали: подойдите в РОВД, это касается вашей матери. Куда в РОВД, в какой кабинет? Что с мамой случилось? Никто ничего не объяснил. Я только успела спросить, жива ли она. Почему наши стражи правопорядка забывают, что перед ними живые люди?! Такое ощущение, что человека специально доводят до какого-то нервозного состояния. А если не дай Бог сорвешься, повысишь голос – тут же грозят, что задержат за сопротивление сотрудникам милиции. Разве это правильно?! И вся эта ситуация с моей мамой – это норма для правового государства?

*В Первомайском РОВД ситуацию с задержанием Нины Цыганковой и обыском в ее квартире не комментируют. «Цыганковой все было объяснено», – заявил оперуполномоченный **Ярослав Литвиненко**, который опрашивал Нину Цыганкову и проводил обыск в квартире.*

КОМПЕТЕНТНО

Владимир ЛОБКОВИЧ, правозащитник:

## «Милиция действовала в рамках закона. Но...»

*И правда, насколько правомерными были действия сотрудников милиции в отношении 77-летней Нины Цыганковой? Ситуацию с ее задержанием и обыском в квартире мы попросили прокомментировать правозащитника, юриста **Владимира Лобковича**.*

– В данном случае сотрудники милиции действовали в рамках своей компетенции и в соответствии с белорусским законодательством, – *поясняет юрист.* – Их действия были оперативными, для задержания пенсионерки Цыганковой у них были все основания: на нее указала потерпевшая, ей показалось, что Цыганкова совершила кражу ее сумки. Обыск, который был проведен в квартире, – это также действия в рамках Уголовно-процессуального кодекса. Не обязаны сотрудники милиции сообщать Цыганковой фамилию и иные данные потерпевшей. Для того чтобы говорить о клевете, надо установить умысел, человек мог добросовестно заблуждаться.

Но, безусловно, сотрудники милиции должны действовать максимально корректно, их действия должны быть правомерными, абсолютно понятными и ясными для лица, к которому они обращаются. Они должны четко объяснить, на основании чего они ограничивают те или иные права человека или его задерживают. Когда уголовно-процессуальные действия в отношении лица завершены и правоохранители пришли к выводу, что данное лицо не является преступником, то перед ним, конечно же, должны извиниться.

Нина Цыганкова может обжаловать действия сотрудников милиции в прокуратуре в порядке общего надзора либо обратиться в Следственный комитет с заявлением о возбуждении уголовного дела в отношении сотрудников милиции, если считает, что их действия были неправомерны либо превышали служебные полномочия.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

Валянцін СТЭФАНОВІЧ:

## «Распрацавалі дакумент, які некалі спатрэбіцца...»

*У Мінску прадставілі альтэрнатыўны законапраект "Аб свабодзе мірных сходаў", які быў падрыхтаваны беларускімі праваабаронцамі і міжнароднымі экспертамі ў гэтай галіне.*

Нагадаем, што на пачатку чэрвеня папраўкі ў закон "Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь" былі прыняты парламентам у другім чытанні. Пасля падпісання закона Саветам Рэспублікі і прэзідэнтам змены ўступяць у законную сілу.

*"Гэты альтэрнатыўны законапраект застаецца актуальным, бо змены ў існуючы закон "Аб масавых мерапрыемствах", якія зусім нядаўна былі прыняты Палатай прадстаўнікоў у другім чытанні, не набліжаюць яго да міжнародных стандартаў у галіне свабоды мірных сходаў і выказвання меркаванняў. У ім застаюцца істотныя абмежаванні правоў грамадзян Беларусі"*, – так анансавалі прэзентацыю тыя, хто падрыхтаваў дакумент.

*"Альтэрнатыўны законапраект хочам накіраваць у парламент*, – кажа праваабаронца **Валянцін СТЭФАНОВІЧ**. – *Калі змены ў гэты закон былі прыняты ў першым чытанні, мы падрыхтавалі праграму-мінімум з 5–6 нашых прапаноў, але пры гэтым, натуральна, адзначалі, што трэба прымаць паўнавартасны новы закон. На жаль, нашы прапановы не былі ўлічаны дэпутатамі, хаця нас і запрасілі на пашыранае пасяджэнне камісіі па правах чалавека, дзе былі прадстаўнікі іншых парламенцкіх камісій, Мінгарвыканкама, МЗС. Малаверагодна, што нешта і зараз будзе выкарыстана, але альтэрнатыўны законапраект застанецца ў любым разе. Можа быць, калі будзе абраны сапраўдны парламент на сапраўды дэмакратычных выбарах, то спатрэбіцца і наш дакумент. Упэўнены, што некалі ён яшчэ спатрэбіцца".*

Праваабаронца пералічыў асноўныя моманты існуючага закона, якія супярэчаць міжнародным стандартам: вельмі малая колькасць месцаў, дзе можна праводзіць мірныя сходы, малая наведвальнасць і аддаленасць гэтых месцаў ад цэнтра, адміністрацыйны будынкаў.

*"Мы казалі, што патрэбны пaведамляльны прынцып для ўсіх сходаў, якія праводзяцца не толькі на вызначаных уладамі месцах*, – адзначае Стэфановіч. – *Таксама некаторыя віды акцый не павінны трапляць пад дзеянне рэгулявання – тыя ж адзіночныя пікеты альбо стыхійныя сходы. Акрамя таго, лічым, што падчас акцый выдаткі на ўборку тэрыторыі, на ахову парадку і медабслугоўванне павінны ўскладацца на дзяржаўны бюджэт. Дзяржава абавязана стварыць умовы для рэалізацыі права на свабоду мірных сходаў".*

Паводле слоў праваабаронцы з Малдовы, эксперта АБСЕ **Сяргея Остафа**, які таксама браў удзел у распрацоўцы альтэрнатыўнага беларускага законапраекта, *"пры стварэнні дакумента ўлічваўся пазітыўны досвед многіх краін свету"*. Пытанне зараз толькі ў тым: ці патрэбны гэты досвед беларускім уладам?

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

БЕЗ РЕТУШИ



Валерий КАРБАЛЕВИЧ

## Может ли нежеланный ребенок быть любимым?

Беларусь в очередной раз отметила День Независимости. Все, как обычно: парад, гала-концерт, салют. Но остается много вопросов. И дело даже не в сомнительной дате празднования Дня Независимости (3 июля).

Проблема в том, что процесс нациотворения, который осуществляет Александр Лукашенко со своей командой, абсолютно не похож как на аналогичные процессы в других государствах, так и на национальный проект белорусских «адраджэнцаў». Обычно исторические мифы, лежащие в основе национального сознания, должны доказывать, что наше государство имеет глубокие корни. Чем глубже, тем лучше. Национально ориентированная часть интеллигенции считала, что историческим фундаментом для белорусской государственности должно стать Великое Княжество Литовское.

Нынешняя власть фактически отбросила всю белорусскую историю, а началом формирования нации объявлена Великая Отечественная война. Национальным символом, куда возят официальных иностранных гостей, стала, главным образом, «Линия Сталина», а не Несвижский или Мирский замки.

Опыт формирования нации в других странах предусматривает, что в ее основе должен лежать жесткий идейный разрыв с империей, метрополией. В нашем случае речь идет о дистанцировании от российского и советского наследия. Неслучайно процесс распада СССР, превращения других союзных республик в самостоятельные государства проходил в форме отделения и отдаления от России, часто под антироссийскими лозунгами.

У нас же фактически формируется русскоязычная нация с немножко модифицированным советским флагом, гербом и гимном, другими атрибутами советского прошлого и под аккомпанемент риторики о строительстве Союзного государства с Россией. Беларусь живет в российском информационном пространстве.

Все нации в регионе Восточной Европы формировались на основе этнокультурного национализма. Если следовать по этому пути, то необходимо делать акцент на белорусский язык, вернуть бело-красно-белый флаг, герб «Пагоня», утвердить новый гимн...

У нас же собственно белорусская культура насильно загоняется в своеобразное гетто. А главным противником объявляются белорусские националисты.

В любой стране создание собственного государства рассматривается как триумф национальной воли, торжество вековечных устремлений его лучших сынов, праздник социума. У нас же, на мой взгляд, все наоборот. В официальной белорусской идеологии акт рождения независимой Беларуси трактуется чуть ли не как несчастье. Дескать, у нас была замечательная и могучая держава Советский Союз, которой все боялись, а значит, уважали. Но в результате коварных происков злых сил (ЦРУ, Горбачева, националистов во главе с Шушкевичем и Позняком) произошла беловежская трагедия. На торжественном собрании, посвященном Дню Независимости Беларуси, в 1998 году президент говорил: «Сегодня только политически слепые националисты да те, кто не хочет видеть и понимать, могут говорить о каких-то выгодах, которые приобрели народы бывшего СССР в результате искусственного развала великого, могучего и родного для всех нас государства» («Звязда», 08.07.1998). И, мол, как побочный результат этого катастрофического стечения исторических обстоятельств, как досадное недоразумение появилась независимая Беларусь. Может ли нежеланный ребенок быть любимым?

Интегрирующей идеей, положенной в основу процесса белорусского нациотворения, стал конструкт стабильности, материального благополучия. Потребление, можно сказать, объявлено центральным звеном национальной идеи. А средняя зарплата в 500 долларов стала чуть ли не символом «белорусской мечты». Понятно, что в таком обществе физкультура и спорт важнее духовной культуры.

Иной вопрос, насколько эта конструкция, построенная на столь зыбком, неглубоком фундаменте, способна выдержать кризис. Как мне кажется, даже сам Александр Лукашенко не уверен. Совсем недавно, 22 июня, через три дня после визита Владимира Путина, на совещании в Шкловском районе он отметил: «Мы на фронте. Не выдержим эти годы, провалимся, значит, надо будет или в состав какого-либо государства идти, или о нас просто будут вытирать ноги». Кстати, за это заявление главы государства пришлось оправдываться министру иностранных дел Владимиру Макею, утверждавшему, что, дескать, президента не так поняли.

Александр Лукашенко в данном случае говорил об экономике. Действительно, за годы после распада СССР не создан крепкий экономический фундамент независимости. Белорусская экономика во многом неэффективна, критически уязвима и сильно зависима от внешней помощи, прежде всего российской.

Поэтому и выступление президента во время торжеств по случаю Дня Независимости создало впечатление какой-то неуверенности. Казалось, что он постоянно что-то доказывал, с кем-то спорил. Хотя, кажется, в этом нет никакой нужды. Вея в очевидном нет никакой нужды убеждать. Если главе государства во время празднования Дня Независимости приходится доказывать его правомерность, то что-то с этим праздником не так.

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Крылы Гаўрылы Вашчанкі

Хлопец з Беларусі прыехаў у пасляваенны Львоў – вучыцца на мастака. Будынак інстытута настолькі ўразіў яго сваімі архітэктурна-скульптурнымі дзівосамі, што хадзіў па ім, задраўшы галаву, і неяк ненаўмысна штурхануў сівога прафесара. Выбачыўся па-руску, патлумачыўшы, што прыехаў з іншай рэспублікі і не ведае ўкраінскай мовы. Прафесар усміхнуўся: "Голубе мой, у твае гады ў Рым, у Акадэмію мастацтва, з-за беднасці я змушаны быў ісці пешкі, дык за два месяцы дарогі вывучыў італьянскую мову!"

Пазней мастак Гаўрыла Вашчанка той урок ад львоўскага прафесара ўспамінаў неаднойчы. Гэта ж якая ахвота да навукі, да мастацтва была, што – пешкі за тысячы кіламетраў са слоўнікам пад пахай! Урок быў засвоены, хіба Вашчанку слоўнікам паслужыў "Кабзар" вялікага Шаўчэнкі, дзе цудоўная паэзія перамяжоўвалася гэткімі зразумелымі пасля той памятнай сустрэчы наказамі: *"І чужому научайтесь, / І свого не цурайтесь, / Бо хто матір забуває, / Того Бог карає".*

З таго часу "свайго не цурацца" стала жыццёвай пазіцыяй і творчым крэда Гаўрылы Вашчанкі. Народжаны на ўсходнім Палессі, у сутоку Прыпяці і Дняпра, ён пазычыў у мясцовай прыроды асноўную фарбу для сваёй палітры – бурштынава-бурую. Яе нiякiдкая цеплыня сагравае амаль усе палотны майстра, яна стала пазнавальным колерам Вашчанкі, як васільковы блакіт у Шагала ці сонечная жаўцізна ў Ван Гога.

А яшчэ малая радзіма дала свайму жывапісцу – крылы. У літаральным сэнсе. Дняпроўска-прыпяцкі сутоку спрадвеку – месца адпачынку птушыных чародаў, якія восеннo-вясной скіроўваліся ў далёкія выраі. І над роднай вёскай Гаўрылы Вашчанкі Чыкалавічамі (пазней адабранай Чарнобылем) двойчы на год неба пакрывалася мільёнамі крыл. Відаць, яно і "акрыліла" пазней пэндзаль мастака, які палескія далягляды не ўяўляў без буслоў, лічыў іх гаспадарамі Палесся, а свае карціны так і называў без лішніх прыдумак – "Крылы-1", "Крылы-2", "Крылы-3", "Крылы-4"...

Птушыныя ці ветраковыя, яны прывучаюць глядацкае вока да вышыні, часам жахно галавакружнай. Гэта сёння ракурсам "сто метраў зверху" нікога не здзівіш, без відэастракозаў – дронаў – ніводзін фільм не здымаецца. А адкуль гэты позірк – з вышыні птушынага палёту – у Вашчанкі? Ці не з тых самых выраёвых Чыкалавічаў, калі малы Гаўрыла галёкаў услед птушыным чародам на дняпроўскай кручы? Дарэчы, адну з такіх кручаў мастак увекавечыў на карціне "Палессе" – там надрэчныя дубы пазакідалі шапкі бусліных гнёздаў аж за аблокі. А на карціне "Наваградчына" – ракурс яшчэ вышэйшы: адным "кадрам" схоплены і Навагрудскае замчышча, і Мірскі замак у сонечных промнях рыштаванняў...

"Свайго не цурацца" Гаўрыла Вашчанка прывучаў і студэнтаў у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, калі сам стаў прафесарам. Прычым не загадваў любіць сваё, не ўпрошваў, а далікатна падштурхоўваў у патрэбным кірунку. Скажам, прыносіў захоплены экзотыкай студэнт краявіды з падвоблачнымі эўкаліптамі ці бочкападобнымі баабабамі, а настаўнік іх не крытыкаваў, проста пытаўся: "А аўстралійскія ці афрыканскія мастакі пішуць беларускія пейзажы?" І аматар экзотыкі міжволі задумваўся.

Захапляцца сваё гістарыяй мастак прывучаў і чыноўнікаў. У 1985 годзе ў сталічным Палацы мастацтва ладзілася маштабная выстава, прысвечаная 40-м угодкам Перамогі. Калегі выставілі партрэты ветэранаў, партызанскіх камбрыгаў, зруйнаваны Мінск і захоплены рэйхстаг. А Вашчанка – Грунвальдскую бітву. "Гаўрыла Харытонавіч, а якое дачыненне мае Грунвальд да Вялікай Перамогі?" – запытаўся сакратар Саюза мастакоў. "Самае непасрэднае – пасля Грунвальда нага ўзброенага немца чатырыста гадоў не ступала на беларускую зямлю!" – сказаў як адрэзаў Вашчанка. І сцяг з Пагоняй на яго карціне паўнапраўна лунаў над галовамі наведнікаў тае выставы.

Зрэшты, і партызанскай тэмы, ледзь не абавязковай для ўсяго беларускага мастацтва, творца не абмінуў. Але – вырашыў яе не плакатна, не праз шаблонную героіку. Вашчанкаў "Прарыў" – цэлая эпапея ўсенароднай бяды. У тое палатно можна ўглядацца бясконца – там каля сотні твараў, і за кожным – свой характар, свой міні-сюжэт. Жанчына з хатулём за плячыма і немаўлём на руках, хлопчык з птушкай у клетцы, мужчына з хэмінгуэеўскім абліччам і вязанкай кніг... Проста біблейскі Сыход, вымалеваны ў дэталях.

Сваё бачанне і разуменне айчыннай гісторыі мастаку часам даводзілася адстойваць да сардэчнага зрыву. Неяк яшчэ пры Машэраве ў Доме настаўніка пачаў рабіць насценны роспіс з выявамі Сімяона Полацкага, Васіля Цяпінскага, Сымона Буднага, у почат асветнікаў дадаў Каліноўскага, Купалу, Багдановіча... Пакуль маляваў – першы сакратар ЦК КПБ з трыбуны забараніў услаўляць у мастацтве манахаў-цемрашалаў... Міністр асветы адмаўляецца прымаць роспіс, Вашчанка адстойваў. І адстаяў. Хоць сам пакінуў Дом настаўніка на "хуткай дапамозе".

Я не Францішак Сапега і не Трацякоў, і ў мяне ніколі не будзе ўласнай карціннай галерэі. Але калі б яна нейкім дзівосным чынам узнікла, то вялікую прастору ў ёй занялі б творы Гаўрылы Вашчанкі – і сіянкрылы "Дзедаў вятрак", і пышнавусы "Жыцень", і асвечанае маладзіком "Возера", і ахутаны туманам "Салаўіны час", і малітоўная "Іардань на Палессі", і падказаны крылатым каркатэвічаўскім радком краявід "Між Дняпром і Крыкам жураўлёным"...

І як жа добра, што гэткая галерэя – персанальная галерэя Вашчанкі – ёсць. У Гомелі, адкрытая яшчэ прыжыццёва, з удзелам самога мастака, чыё нядаўняе 90-годдзе прамінула неяк насцяроўваюча незаўважна.

Існуе галерэя, ёсць шыкоўны альбом-каляпіс "Народжаны Палессем", створаны таленавітай Наталляй Шарангвіч, ёсць напісаная жывапісным пяром Віктара Карамазава аповесць "Брама". Ёсць усё, каб мы ўсе зразумелі: Гаўрыла Вашчанка – вялікі нацыянальны мастак. Увайдзіце ў створаны ім свет – і вы адчуеце сэрцабіццё Беларусі.

ПРЫСУД

## Як і прасіў дзяржабвінаваўца

*Вынесены прысуд па гучнай справе сузаснавальніка і дырэктара ТАА «СарматТэрмо-Інжынірынг» **Аляксандра Кныровіча**.*

Бізнесмен атрымаў шэсць гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Ён прызнаны вінаватым ва ўхіленні ад выплаты падаткаў, даванні хабару, у тым ліку – паўторна ў буйным памеры. Намеснік дырэктара па эканоміцы **Ігар Максімаў** атрымаў 4 гады з канфіскацыяй, вядучы эканаміст **Андрэй Кавалкаў** – 3 гады з канфіскацыяй, намеснік дырэктара па продажах **Яўген Папоўскі** – 4 гады пазбаўлення волі без канфіскацыі маёмасці.

Усе тэрміны адпавядаюць таму, што раней прасіў пракурор.

На працягу месяца з дня ўступлення прысуду ў сілу абвінавачаныя павінны пагасіць шкоду дзяржаве ў памеры 2,767 мільёна рублёў і дзяржпошліну ў памеры 138 тысяч рублёў.

Аляксандр Кныровіч заявіў, што будзе абскарджваць прысуд.

ПАМЯЦЬ

# Урокі Трасцянца

*На мінулым тыдні ў Трасцянцы на месцы, дзе падчас Вялікай Айчыннай вайны масава знішчалася мірнае насельніцтва, урачыста адкрылася другая чарга мемарыяльнага комплексу. У мерапрыемстве бралі ўдзел прэзідэнты Беларусі, Германіі і Аўстрыі.*

*А пазней на Міжнароднай канферэнцыі "Помніць дзеля агульнай еўрапейскай будучыні", якая прайшла ў сценах Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра, эксперты, гісторыкі, высокія замежныя госці, у тым ліку і прэзідэнт Германіі Франк-Вальтэр Штанмаер, гаварылі пра тое, чаму сучасным і будучым пакаленням важна памятаць пра трагедыю Трасцянца. На канферэнцыі прысутнічаў і карэспандэнт "Народнай Волі".*

### З плошчы Жыцця – на плошчу Смерці

Аўтарам праекта мемарыяла быў вядомы беларускі скульптар **Леанід Левін**. Ён прапанаваў стварыць частку мемарыяльнага комплексу ва ўрочышчы Благаўшчына, побач з вёскай Малы Трасцянец. Менавіта сюды фашысты звозілі яўрэяў і беларусаў – дарослых і дзяцей. Прыбыццё палонных афармлялася, іх рэчы апісваліся, што давала людзям надзею на тое, што сюды іх прыгналі на прымусовую працу. Аднак амаль для ўсіх Благаўшчына стала месцам смерці. Тут было расстраляна каля 150 тысяч чалавек. Сярод іх яўрэі з Польшчы, Чэхаславакіі, Германіі, Аўстрыі. Спачываюць тут і рэшткі забітых беларусаў. Дагэтуль не ўстаноўлены імёны многіх з іх. Але, напрыклад, дакладна вядома, што тут быў забіты вядомы беларускі святар Вінцэнт Гадлеўскі.

Паводле задумы Леаніда Левіна, мемарыял трэба было падзяліць на дзве ўмоўныя часткі: шлях, па якім ішлі людзі, не здагадваючыся, што іх чакае далей, – "Апошні шлях", і само месца расстрэлаў.

Пачынаецца мемарыял з плошчы Жыцця – яна выканана ў белым колеры як сімвал надзеі на працяг. Планавалася, што да дня адкрыцця тут будуць устаноўлены скульптуры ў выглядзе чамаданаў, з якімі сюды прыязджалі людзі, але пакуль іх тут няма. Не хапіла сродкаў. Далей тут жа, на плошчы Жыцця, стаяць чатыры бетонныя вагоны даўжынёй 20, вышынёй 4 і шырынёй 3,4 метра. Гэта своеасаблівыя залы памяці.

З плошчы Жыцця наведвальнікі мемарыла трапляюць на плошчу Парадокса. Яна выбрукавана чырвоным каменем. Парадокс вайны, паводле меркавання аўтарскай групы, якая працавала над стварэннем мемарыяла, заключаецца ў тым, што чалавек страляў у чалавека. З часам тут павінны з'явіцца скульптуры ў выглядзе перакуленых дома, дрэва і меноры (аднаго з самых старадаўніх сімвалаў іўдаізму). Пакуль пад скульптуры толькі заліты падмурак. Заканчваецца мемарыял плошчай



Смерці з шыльдамі, на якіх пазначаны імёны тых, хто быў тут расстраляны…

Як распавёў дырэктар Мінскага міжнароднага адукацыйнага цэнтра **Віктар Балакіраў**, на рэалізацыю праекта быў патрачаны 1 мільён еўра. Гэтыя сродкі былі сабраны выключна нямецкім бокам. Грошы ў Беларусь паступілі ў тым ліку ад гарадскіх арганізацый Берліна, Кёльна, Дзюсельдорфа, Гамбурга, Брэмена і Франкфурта-на-Майне. Таксама ў фінансаванні ўдзельнічаў Народны саюз Германіі па доглядзе за вайсковымі пахаваннямі і іншыя грамадскія арганізацыі.

Дарэчы, плануецца, што ў мемарыяла "Трасцянец" будзе адзіны інфармацыйны цэнтр. Яго плануюць адкрыць у адным з будынкаў, які зараз належыць "Белтэлекаму". Менавіта праз гэты цэнтр можна будзе патрапіць на цэнтралізаваную экскурсію па Трасцянцы.

### Скіраваць погляд у мінулае

Удзел у працы міжнароднай канферэнцыі ўзяў і прэзідэнт Германіі **Франк-Вальтэр Штанмаер**. Выступіць перад прысутнымі ён прыехаў пасля сустрэчы з **Аляксандрам Лукашэнкам**.

– У кантэксце размовы пра культуру памяці важна ацаніць, дзе сёння знаходзіцца грамадства, – заявіў у сваім выступленні Штанмаер. – Культура памяці можа існаваць тады, калі паміж народамі існуе адкрытасць і гатоўнасць ацаніць гісторыю і сваю ўцягнутасць у яе. Калі гісторыя становіцца дзяржаўнай палітыкай, то няма гатоўнасці абменьвацца вопытам пра гісторыю і займацца ёю.

Я бачу зараз рэтраграднае стаўленне да гісторыі ў некаторых краінах. Пэўныя дзяржавы з моцным адчуваннем нацыянальнай ідэнтычнасці адхіляюцца ад агульнага бачання гісторыі і канцэнтруюцца на нацыянальнай памяці. Стабільнасць і мір на гэтым кантыненце будуць доўгатэрміновымі толькі тады, калі ў нас будзе мужнасць быць адкрытымі, калі мы будзем глядзець у мінулае. Таксама нам патрэбна мужнасць, каб глядзець у будучыню.

### «Гэта страшна. Вельмі страшна!»

Для таго каб адказаць на пытанне, навошта гісторыя дае ўрокі чалавецтву, здаецца, патрэбна толькі адно – чуць. Чуць людзей, якія перажылі тыя страшныя часы. Зараз іх засталося зусім мала, але яны ёсць сярод нас.

– *Мне да гэтага часу не верыцца, што такое магло адбыцца. Уявіце: думаючы пра сваіх бацькоў, я сёння гадаю, быў гэта расстрэл або газ. Гэта страшна. Вельмі страшна!* – гэта словы з выступлення на канферэнцыі **Курта Маркса**. Яго бацькі, нямецкія яўрэі, былі забіты ў Трасцянцы. А яго самога ад немінучай смерці выратаваў дырэктар школы, адправіўшы разам з аднакласнікамі ў Англію.

А вось фрагмент сведчанняў мінчаніна **Навума Хейфеца**, які падчас вайны прайшоў шмат нацысцкіх канцлагераў:

– *28 чэрвеня Мінск быў акупаваны немцамі. Большая частка насельніцтва не паспела пакінуць горад, таму што гарадскія ўлады заклікалі жыхароў захоўваць спакой і парадак, не інфармуючы аб тым, што немцы імкліва наступаюць, а самі таемна выехалі ў Магілёў. Даведаўшыся пра гэта, людзі спрабавалі пакінуць горад, але было ўжо позна: Мінск атачылі нямецкія войскі, і жыхарам, у тым ліку і нам, прыйшлося вярнуцца.*

*У 1941 годзе па загадзе нямецкага каменданта палявой камендатуры ад 19 ліпеня нам давялося пакінуць наш дом і пасяліцца ў яўрэйскім гета. Калі загад не выконваўся – расстрэл. Гета займала тэрыторыю кіламетр на кіламетр і складалася з 40 вуліц і завулкаў. Жылі ў цеснаце – па шэсць-сем сем'яў на чатыры пакоі. Па загадзе нямецкіх улад мы, яўрэі, насілі жоўтую лату на грудзях і на спіне.*

*Электрычнасці і крам не было, за вадой бегалі да калонак. Сёстры і я былі рознарабочымі і часам атрымлівалі баланду або кавалачак хлеба, які прыносілі дадому і дзялілі паміж усімі членамі сям'і. Аладкі рабілі з бульбяных абіркаў, суп варылі з крапівы і лебяды. Побач працаваў хлебазавод, на ўвесь раён пахла хлебам, а мы кожны дзень паволі паміралі з голаду.*

*У гэтым гета я страціў усю сваю сям'ю. Першай загінула старэйшая сястра – падчас вялікага пагрому 2 сакавіка 1942 года. Улетку гэтага ж года нас адправілі працаваць на чатыры дні, і, калі прывезлі дадому, то ў кватэры на ложку на коўдры мы ўбачылі засохлую лужыну крыві. Маці забілі, пакуль нас не было, ва ўласным ложку. Малодшую сястру і пляменніка таксама забілі – дзе іх магілы, я так і не даведаўся…*

Здаецца, нам і сапраўды варта памятаць пра тое, што распавялі гэтыя людзі. Дзеля агульнай мірнай і спакойнай еўрапейскай будучыні…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ПУЛЬС

## Бывшего президента Армении вызвали на допрос

Специальная следственная служба Армении опрашивала Роберта Кочаряна как свидетеля по делу об убийствах на митингах в начале 2008 года. Тогда в ходе столкновений протестующих и силовиков погибли десять человек, в том числе два сотрудника полиции. Кочарян руководил Арменией в период с 1998-го по апрель 2008 года.

В рамках того же расследования объявлен в розыск бывший министр обороны страны Микаел Арутюнян, которого подозревают в попытке свержения государственного строя страны и неправомерном использовании армии для разгона митингов.



Расследование дела о митингах 2008 года армянские эксперты называют делом чести для нового премьера Никола Пашиняна.

## «Нефтяной» ультиматум США

Иран угрожает полностью заблокировать экспорт энергоресурсов из Персидского залива, если США будут препятствовать другим странам покупать иранскую нефть

Как известно, ранее США в одностороннем порядке вышли из Иранской ядерной сделки, после чего Госдеп потребовал от других государств прекратить покупать иранскую нефть. Против тех, кто продолжит импортировать иранскую нефть, США планируют ввести санкции уже в ноябре 2018 года.

## Забастовка в Европарламенте

Синхронисты Европарламента, которые осуществляют переводы на 24 официальных языках ЕС, объявили забастовку. Они выступают против увеличения продолжительности рабочего дня с 7 до 8 часов, а также сокращения обеденного перерыва до 45 минут.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Смаргонская мядзведжая акадэмія

Якіх толькі навучальных устаноў не сустрэнеш на свеце! Але сярод іх была адна – ці не адзіная і самая знакамітая на ўсю Еўропу. Месцілася яна ў беларускім горадзе Смаргонь і называлася мядзведжай акадэміяй. "Акадэмікамі" ў ёй былі, вядома ж, касалапыя мішкі з навакольных лясоў.

Заснавалі мядзведжую акадэмію ў XVII стагоддзі князі Радзівілы. Адбор вучняў быў строгі. Іх адлучалі ад бацькоў яшчэ малымі. Часта рабілі гэта ўвішныя цыганы, якія пасля станавіліся гаспадарамі вучаных мядзведзяў. Вучылі артыстаў шэсць гадоў – не менш, чым у іншых вучэльнях. Так што і раней, каб стаць акадэмікам, даводзілася добра папацець. А мішкам – дык у прамым сэнсе гэтага слова.

Пасля таго як іх на самым пачатку вясны адшуквалі ў вялізных сасновых лясах, што густа атулялі Смаргонь, не марудзячы прыступалі да справы. Дзеля гэтага будавалі спецыяльныя "класы". Часта гэта была прасторная хата, падлогай якой служыла чарэнь вялікай печы. Мядзведзяў навязвалі да слупа ў цэнтры, а ў печы распальвалі агонь. Заднія лапы "вучняў" абувалі ў лапці, абгарнуўшы папярэдне анучамі. Печ награвалі да той пары, пакуль малады звер не станавіўся на абароненыя ад жару заднія лапы. А калі не ўратоўвалі і лапці, ён пачынаў падтанцоўваць – пераступаць з адной лапы на другую. "Настаўнік" у гэты час біў у бубен альбо граў на дудцы. Рытм музыкі супадаў з рытмам таптання мядзведзя. Заняткі праводзіліся штодзённа. Так доўжылася ад аднаго да двух месяцаў – у залежнасці ад здольнасці "вучня" і настойлівасці дрэсіроўшчыка.

Пасля гэтага мядзведзяў выводзілі з хаты на волю. Тут іх ізноў цешылі бубнам альбо дудкай. Але, навучаныя клеткай-хатай, звяры не чакалі, пакуль гарачая чарэнь падсмаліць пяты, і пачыналі адразу танцаваць. За такую стараннасць іх частавалі пернікам. Ды яшчэ пыталіся: "А скажы, Міхале, ты любіш пернікі?" Калі той ківаў галавой – быццам у знак згоды, атрымліваў яшчэ адзін.

Дзеля важнай справы навучання скарыстоўвалі і "французскія пагоркі", якіх было шмат у ваколіцах Смаргоні. Казалі, што яны засталіся ад імператара Напалеона. Тут зрабіў ён апошні прыпынак, перш чым кінуў рэшткі сваіх маршалаў і гвардзейцаў і ў звычайных санях уцёк з негасціннай беларускай зямлі.



А "французскія пагоркі", што засталіся ля Смаргоні, прыдаліся для акадэмічных "класаў". На іхніх вяршынях капалі трохметровыя ямы. У іх апускалі жалезныя клеткі з мядзяным дном. Збоку пракопвалі ход і знізу раскладвалі вогнішча. У клетку ўпускалі двух-трох медзведзянят. Далейшае навучанне вялося ўжо вядомым спосабам.

Вытрымаўшы "выпускныя экзамены", "акадэмікі"-скамарохі разам са сваімі павадырамі разыходзіліся па гарадах, вёсках і мястэчках беларускай зямлі. Траплялі ў Расію, Польшчу, Францыю, Германію. Даходзілі нават да Венгрыі, дзе хапала і сваіх вучаных мядзведзяў. Аднак выпускнікі Смаргонскай акадэміі былі больш спрытныя і пацешныя. Чаго толькі яны не вытваралі! Умелі танцаваць, паказваць, як п'яны мужык з кірмашу дамоў вяртаецца, як чарку куляе, як бабы ідуць на паншчыну і з паншчыны. Умелі насіць ваду на каромысле, калоць дровы, частаваць гасцей, гнуць дугі. Заўзята барукаліся, абдымаліся і цалаваліся. Так французы, немцы, палякі і іншыя насельнікі Еўропы знаёміліся са звычаямі, характарам і заганамі беларусаў.

А калі заканчваўся пацешны сезон, недзе ў лістападзе артысты разам са сваімі павадырамі вярталіся дамоў. Гэта было абавязковай умовай захавання працаздольнасці чацвераногіх скамарохаў. Хоць прафсаюзаў тады і не было, а правы працоўных стараліся аберагаць. Дома іх чакалі загадзя падрыхтаваныя зімовыя кватэры, дзе, як і ў кожнай роднай хаце, было і ўлежна, і ўежна. Спячка доўжылася да пачатку вясны. З першымі цёплымі днямі ўсё пачыналася нанава. Кароткае паўтарэнне пройдзенага – і разам з навічкамі бывалыя артысты выпраўляліся ў блізкія і далёкія паходы па гасцінцах, дарогах, сцежках. Смаргонскія "вучні" ішлі весяліць людзей, пацяшаць іх і разносіць па свеце славу пра знакамітую Смаргонскую акадэмію. І пра Радзівілаў, ейных гаспадароў і апекуноў, таксама. Апекуны ж мелі з гэтага не толькі маральнае задавальненне.

Ды і самі Радзівілы якіх толькі пацех і забаў не выдумлялі! Кажуць, самыя смелыя з іх, аматары паштукарыць, ездзілі на запрэжаных у карэту мядзведзях ажно ў Варшаву. Іншыя звыкла прагульваліся на таптыгіных па сваіх вотчынах, адведвалі суседзяў. Некаторыя нават летам запрагалі мядзведзяў у сані, пасыпалі соллю дарогі і каталіся да знямогі. А соль тая пасля станавілася каштоўным здабыткам простых людзей.

Аднак часам гэткага здзеку не вытрымлівалі нават паслухмяныя мядзведзі. Аднойчы князь Радзівіл вырашыў наладзіць дочкам агляд спрыту і кемлівасці "вучняў" акадэміі. Прыехалі яны ў Смаргонь, мядзведзі перад імі стараюцца, як збяднелыя мужыкі перад панам. Але адзін, дужы і вялікі, быў чамусьці сярдзіты. Князь хацеў даведацца, у чым справа, а гэты Чорт (так звалі мядзведзя) усім сваім цяжарам накінуўся на князя. Відаць, пакваліўся на залатыя гузікі. Каб не вартаўнік Саўка са сваімі пудовымі кулакамі, не жыў бы князь. Аднак не дачакаўся Саўка падзякі за паратунак, а Чорта таго застрэлілі, каб іншым гузікі не абрываў.

Смаргонская вучэльня запачаткавала і яшчэ адну цікавую справу – выраб першых беларускіх абаранкаў, якія вельмі хутка набылі пашырэнне і ў Еўропе. Мядзведжым павадырам у дарозе патрэбны быў харч. Вось і прыдумалі яны замест хлеба смачныя і хрумсткія абаранкі.

Мядзведжая акадэмія ў Смаргоні існавала ледзь не да паловы XIX стагоддзя. Шмат таленавітых артыстаў выйшла з яе класаў. Яшчэ мо і сённяшнія цыркавыя мядзведзі з'яўляюцца праўнукамі тых славутых "акадэмікаў".

Што ўсё тое не прыдумка, засведчыла выдадзеная ў 1896 годзе расійская Вялікая энцыклапедыя: "Смаргонь – заштатны горад Віленскай губерні. Некалі атрымаў даволі гучную вядомасць існым тут промыслам навучання мядзведзяў. Яшчэ сто гадоў таму мядзведзі, якіх у насмешку празвалі вучнямі Смаргонскай акадэміі, хадзілі з павадырамі не толькі па Расіі, а і па ўсёй Еўропе".

КИНОФОРУМ

# «Хрусталь»… Только не разбейся!

Завтра закончится крупнейший в Европе Международный кинофестиваль в Карловых Варах, где впервые за многие годы был представлен на конкурс белорусский фильм. Это лента «Хрусталь» режиссера Дарьи Жук, совместное производство кинокомпаний Беларуси, США, Германии, России. Именно этой кинолентой открывалась вторая по важности конкурсная секция «К Востоку от Запада», что дает возможность надеяться на один из престижных призов фестиваля. Но независимо от решения карлововарского жюри фильм уже отмечен высокой наградой: белорусский оскаровский комитет выдвинул «Хрусталь» на соискание премии «Оскар» в категории «Лучший иностранный фильм».

Об этом стало известно на фестивале после первого показа фильма, и новость, конечно, произвела там настоящий фурор среди публики, кинокритиков и журналистов – пишу это как очевидец происходившего. Мировая пресса стала в очередь за интервью к белорусскому режиссеру: "Би-Би-Си", "Гардиан", главная лос-анджелесская газета о кино "Варьете", Радио Свобода. Что ж, белорусский оскаровский комитет выбрал правильный момент для заявки национального кино



– на знаменитом международном фестивале класса "А" в день (вернее даже в ночь) после мировой премьеры фильма.

Но кто входит в наш оскаровский комитет? Вернее будет спросить: кто имеет право стать его членом? Уважаемые профессионалы с серьезной репутацией в киноиндустрии. Озвучивать свои фамилии они не обязаны, есть у них такая привилегия (чтобы избежать кумовства и приятельства, особенно в нашей маленькой стране), и Министерству культуры о своих решениях эти люди тоже, слава Богу, не подчинены, не отчитываются. Сначала они посылают заявку со своими фамилиями в Лос-Анджелес, откуда приходит (или не приходит!) подтверждение их высоких полномочий. И если ответ «да» – начинают исполнять свои обязанности. Наша страна, кажется, пару раз за новое время создавала эту структуру, но она вскоре самораспускалась, так как в стране не было фильмов, которые могли бы претендовать на «Оскар». И не только по художественным параметрам. Важны страна-производитель, гражданство режиссера.

И вот «Хрусталь» – само название картины, словно аллегория нашей давней мечты делать такое белорусское кино, чтобы вырваться с ним на мировые просторы. На Международном кинофестивале в Карловых Варах картину Дарьи Жук принимали очень хорошо. После первого показа зрители благодарили создателей долгими аплодисментами. На втором и третьем показах публика уже стояла в проходах или сидела на ковриках перед первым рядом: хорошие слухи тоже, знаете ли, быстро разносятся. Тем более что атмосфера здесь потрясающая. Молодежь на дни фестиваля стекается в Карловы Вары со всей Европы, с жадностью ходит на киносеансы, а живет в основном в палатках в лесу под городом, для них даже пускают специальные бесплатные автобусы на фестиваль.

Всего в эти дни фестиваль показал около двухсот картин. В главном конкурсе за приз «Хрустальный глобус» соревновались 12 фильмов: из Канады, Словении, Румынии, Польши, Израиля, Чехии, Турции... Российское кино в конкурсе было представлено фильмом Ивана Твердовского «Подбросы». Вторая по значению конкурсная программа «К Востоку от Запада» включала фильмы из стран бывшего СССР, Греции и Ближнего Востока. Здесь тоже демонстрировалось 12 картин, из них 8 были показаны в ранге мировых премьер. В том числе «Хрусталь» белорусского режиссера Дарьи Жук. Как его оценит международное жюри, мы узнаем завтра только ближе к ночи. А саму картину сможем увидеть в кинотеатрах Минска в сентябре (премьера – 30 августа). Тогда и поговорим о ней более детально, с чувством и без пристрастия.

**Елена МОЛОЧКО.**
*Минск – Карловы Вары.*

У СОСЕДЕЙ

## Литве нужны строители

По данным Литовской биржи труда, в мае во всей Литве было зарегистрировано на треть больше вакансий, чем людей, вставших на биржу. Больше всего требовалось строителей. В числе пользующихся спросом специальностей были также водители большегрузных машин и грузовых машин, продавцы, повара, водители легковых авто, такси, фургонов, специалисты в сфере маркетинга, водопроводчики, мясники, раздельщики рыбы.

А недавно на одном из рекламных стендов в Вильнюсе появилось объявление: «Брат, не эмигрируй! Заработать можно и в Литве!». На стенде изображен мужчина в строительной каске и сказано, что зарплата Гитиса составляет 22.289 евро. Директор компании Valandinis Игнас Марцишаускас, заказавший эту рекламу, сказал DELFI, что 22.289 евро – это зарплата «грязными».

К слову, по данным Департамента статистики, средняя зарплата в Литве «на бумаге» в первом квартале 2018 года в Вильнюсском регионе составляла 1000,3 евро. В центральной и западной Литве средняя зарплата «на бумаге» была 816,5 евро.




«Народная Воля»
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

ДЫПКУР'ЕР

## У Кітай без візы

– *З 10 жніўня 2018 года ўступае ў сілу пагадненне аб узаемным 30-дзённым бязвізавым рэжыме паміж Беларуссю і Кітаем*, – напісаў у «Твітары» пасол Беларусі ў Кітаі **Кірыл Руды**. І дадаў, што кітайскі парламент ужо ратыфікаваў пагадненне аб бязвізе.

Як вядома, міжурадавае пагадненне аб узаемным бязвізавым рэжыме для ўладальнікаў звычайных пашпартоў паміж Беларуссю і Кітаем было падпісана на пачатку чэрвеня. Дакумент ужо ўзгоднены на ўсіх узроўнях у Беларусі.

Цяпер консульскі збор за аднаразовую візу ў кантынентальны Кітай складае 30 долараў, а шматразовая гадавая віза абыходзіцца беларусам у 90 долараў.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак у №№31–52.)*

## Строгі наказ

Як і ў многіх іншых мясцовасцях, самым хадавым таварам падчас акупацыі ў жыхароў Магільнага была соль. Што толькі не мянялі на яе, але ў нас найчасцей за ўсё мяса і сушаныя грыбы. Добра ладзіліся справы з такой аперацыяй у нашай мамы і суседкі Параскі Лыч. Калі большасць магілян у гэтых мэтах падавалася ў Стоўбцы, дык яны – ў Негарэлае. Паездкамі былі задаволены і дзякуючы такім аперацыям нават мелі лішку солі, якая выкарыстоўвалася для абмену на якую-небудзь важную патрэбу ўжо на месцы.

Нейкім чынам пра ўсё гэта даведаліся партызаны і прасілі маму і цётку Параску пры наведванні Негарэлага абавязкова заязджаць у канкрэтна названы дом. Нічога не падазраючы, яны гэта бездакорна выконвалі. Па прыбыцці дамоў іх сустракалі тыя ж самыя партызаны, дапамагалі распрэгчы каня, зацягнуць воз ці сані ў гумно.

Аднойчы мама заўважыла, як партызан з хамута выцягнуў і хуценька схаваў у кішэню нешта падобнае на канверт. Другім разам партызанаў вельмі цікавіла пасланае на возе сена. Пазней таксама заўважалася штосьці нязвыклае ў іх паводзінах, і мама вырашыла запытацца. З адказу партызанаў высветлілася, што мама разам з суседкаю Параскаю, нічога не ведаючы, выконвалі адказныя даручэнні па ажыццяўленні сувязяў з негарэльскімі падпольшчыкамі. Мелася жаданне і далей выконваць просьбы партызанаў. Ды трэба ж было так здарыцца, што праз дзень-два, завітаўшы да нас, пра гэта даведаўся мамін брат-партызан Валодзя. Ён быў больш як на дзесяць гадоў маладзей за сястру Жэню, вельмі паважаў яе, амаль да канца жыцця прыслухоўваўся да яе голасу. А тут на табе – дзядзька, ледзь стрымліваючы сябе ад злосці, настойліва павучаў сястру:

– Ты што, хочаш сваіх пяцярых дзяцей зрабіць круглымі сіротамі?! Самы нязначны промах – і трапіш у рукі паліцыянтаў. Жывой ад іх не вырвешся, як ні будзеш прасіцца.

Мама маўчала. Маўчалі і мы, бо былі на баку дзядзькі. Калі ў чарговы раз маму наведалі ўсім нам знаёмыя партызаны, ім было заяўлена пра прычыны спынення ўсялякіх сувязяў. Рэакцыя была незвычайна бурлівай. Пагражалі, што абавязкова навядуць даведкі пра атрад, у якім знаходзіцца Валодзя, і яму не ўдасца ўхіліцца ад партызанскага суда. Мама не паддавалася застрашванню і рашуча адмаўлялася ад далейшага супрацоўніцтва. Ніякіх санкцый ні да яе, ні да Валодзі не прымянілі. Замялі справу. А ў цэлым партызаны далёка не заўсёды праяўлялі належны клопат пра захаванне ў надзейнай бяспецы тых, з кім мелі справу. Не быў выключэннем і выпадак з нашай мамай і цёткай Параскай.

## Баптысты аблюбавалі нашу хату

Магіляне далёка не ў поўным аб'ёме выкарыстоўвалі дадзеную ім у гады вайны і акупацыі магчымасць жыць разам з Богам. Тлумачылася гэта рознымі прычынамі, але, бадай, самая галоўная з іх – ажыццёўленая ў 1920–1930-я гады атэістычная праца з людзьмі, асабліва са школьнай моладдзю. У жыхароў старэйшых узростаў, народжаных у апошнія дзесяцігоддзі XIX – першае дзесяцігоддзе XX ст., маглі быць сур'ёзныя сумненні датычна таго, ці з'яўляецца праваслаўе рускага, маскоўскага ўзору сапраўднай іх верай. Абсалютная большасць магілян насіла імёны, якіх не адшукаць было ў святцах: Язэп і Магда, Алесь і Зося, Волесь і Дарка, Хведар і Тэкля… У жыхароў Магільнага знайшлося імпэту толькі для таго, каб неўзабаве пасля прыходу немцаў перахрысціць сваіх дзяцей.

У той сітуацыі больш актыўную пазіцыю займалі баптысты. У нашай мясцовасці нейкім іх цэнтрам з'яўлялася вёска Прусінава прыкладна за пяць кіламетраў ад Магільнага з процілеглага ад яго берага Нёмана. Спаленыя масты праз Нёман не з'яўляліся перашкодай для баптыстаў, каб трапіць у Магільнае. Дый праз Нёман можна было перабрацца на чайцы і ў раёне самога Прусінава. Словам, баптысты сур'ёзна кінулі вока на Магільнае. Толькі зусім не вядома, чаму яны пакваліліся на нашу хату. Не выключана, што яна была прасторнай, у ёй адсутнічаў дарослы гаспадар-мужчына. Прадстаўнікі гэтага полу не так цягнуцца да рэлігіі, як жанчыны.

У студзені ці лютым 1943 года парог нашай хаты пераступілі тры жанчыны, якія назваліся баптысткамі. Размова адразу ж павялася пра Бога.

– Ды няма яго, – адказала мама. – Каб быў Бог, дык ці забраў бы ён у мяне гаспадара, а ў пяці дзяцей – бацьку? Не дазволіў бы партызанам адабраць у нашай сям'і свінню.

Пры той размове прысутнічаў і я. Па тварах баптыстак адчувалася, што яны не спадзяваліся пачуць такое ад жанчыны цяжкага лёсу, але хутка зарыентаваліся і папрасілі ў мамы дазволу праспяваць хоць некалькі песень.

– Спявайце, – пагадзілася мама. – У мірныя часы ў гэтай хаце часта спявалі.

На спевы баптыстак з другога пакоя адразу ж выйшла Ліда і стала ўважліва слухаць. Відаць, спадабалася, бо, калі баптысткі сталі развітвацца, папрасіла яшчэ што-небудзь выканаць. Паслухалі. Пры развітанні жанчыны паабяцалі праз колькі дзён наведаць нас, на што мама прамаўчала, а вось Ліда гэтыя словы прыняла з вялікай радасцю і амаль кожны дзень упрошвала маму дазволіць баптыстам збірацца ў нас. Мама здалася.

Праз месяц ад першага візіту баптыстаў наша хата ператварылася ў сапраўдны малельны куток. Ён да адказу набіваўся людзьмі, калі прыходзілі баптысты. Ліда ўжо на трэці дзень арганізацыі малебнаў спявала разам з баптыстамі. Прыгажосць яе голасу заўважаў кожны з прысутных. А сярод іх было нямала і тых, каго лічылі за самых шчырых вернікаў праваслаўнай царквы, не выключаючы і колішніх удзельнікаў царкоўнага хору. Калі з нашай хаты на вуліцу даносіліся спевы, іх ахвотна ішлі слухаць і партызаны, адразу здымаючы шапкі. З цягам часу баптыстам пачалі падпяваць амаль усе, хто прыходзіў на малебен. Асабліва дружна ўсе хорам спявалі развітальную песню, ад якой я яшчэ і сёння памятаю такія радкі (тэкст яе рускі):

*Тихо, мирно – мирно и спокойно*
*Мы домой пойдем,*
*Все благие наставления*
*Мы с собой возьмем.*

Адзначу, што ўвесь рэпертуар баптысцкіх песень быў рускамоўны, пакольні і дадзеная хрысціянская канфесія Беларусі знаходзілася пад моцным рускім уплывам, мала лічылася з яе нацыянальным інтарэсам.

З пачаткам вяснова-палявых работ інтэнсіўнасць баптысцкай дзейнасці ў Магільным пайшла на спад. Не выйшла яна на ўзровень пачатку 1943 года і з надыходам зімы 1943/1944 гадоў, бо істотна змянілася ў горшы бок сітуацыя. Амаль усе сядзелі на клунках з сухарамі ў чаканні каманды ўцякаць у лес. Людзі стараліся далёка не адыходзіць ад роднай хаты і быць заўжды напагатове. У такіх экстрэмальных умовах небяспечна было збірацца ў вялікай колькасці для ўдзелу ў якіх-небудзь мерапрыемствах, не выключаючы і баптысцкіх малебнаў.

## Аб'ектам бамбавання выбралі Магільнае

Іншым разам бяда абыходзіла і нашу сям'ю, хаця, здаецца, у гады акупацыі мала хто так часта трапляў у такое цяжкае становішча, як мы. Праз аднаго знаёмага нам партызана дзядзька Валодзя перадаў, што ён аднаго канкрэтнага восеньскага дня 1943 года будзе ў нас і вельмі хоча сустрэцца са мной. Нягледзячы на вялікую занятасць у працы па сельскай гаспадарцы, я застаўся дома. У хату зайшоў дзядзька Валодзя, і я стаў частаваць яго блінцамі з салам і кіслым малаком. Не паспелі з'есці і аднаго блінца, як у небе пачуўся гул самалётаў, што вельмі рэдка ў той час назіралася ў нашай мясцовасці. Выскачылі ўдвух на двор і ахнулі: у небе над Магільным кружацца тры нямецкія самалёты і скідваюць на хаты, гаспадарчыя пабудовы фугасныя бомбы. Калі б я быў адзін дома, відаць, адразу рвануў бы ў лес, ратуючы сваё жыццё.

– Лёня, – пачуў зусім не панічны голас дзядзькі, – хапай сахор, вілы, граблі, дай з іх што-небудзь і мне, а сам лезь на страху хлява і гумна, а я ўзбяруся на дах хаты. Як толькі трапіць на страху фугасны снарад, старайся хутчэй, да таго як ён пачне гарэць, скінуць яго на зямлю, няхай ён там гарыць, ад гэтага ў нас пажару не будзе.

З рэкамендацыямі дзядзькі я пагадзіўся, а вось снарада ніводнага не скінуў, бо ён проста не трапіў на страху. Затое дзядзька дзве фугаскі скінуў у агарод суседкі Арыны. Гледзячы на нас, і сёй-той з нашых суседзяў, а таксама з аддаленых хат аналагічным чынам павялі барацьбу па прадухіленні пажару. Не пашанцавала Нарадоўскай вуліцы: амаль усё дарослае насельніцтва працавала ў полі і не ведала, што робіцца дома. На гэтай вуліцы датла згарэла некалькі хат.

Калі нямецкія самалёты пакінулі неба над Магільным, дзядзька сказаў мне папярэдзіць каго толькі можна пра верагоднасць паўторнага бамбавання. Я выканаў такое даручэнне, і не дарэмна, бо і сапраўды дзесьці праз тры-чатыры гадзіны аднавілася бамбаванне. На гэты раз на дахах амаль усіх хат нашай Кавалёўскай вуліцы стаяў хоць адзін чалавек, каб не дапусціць пажару. І ён абмінуў гэтую вуліцу. Нямецкія лётчыкі ўжо так асмялелі, што ляталі амаль над самымі хатамі. Нават было відаць, як яны рукамі раскідвалі фугасныя снарады. Пры другім па ліку бамбаванні ў мястэчку ўжо нямала было партызанаў, але ніхто з іх не страляў па самалётах, не жадаючы выклікаць у акупантаў яшчэ большы гнеў на магілян за іх сувязь з ляснымі братамі.

Трэці налёт зрабілі (як і ў папярэднія налёты, у бамбаванні дамоў таксама ўдзельнічалі тры самалёты), калі людзі пачалі вяртацца дамоў з працы. На гэты раз скідвалі не толькі фугасныя снарады, але і невялікай выбуховай сілы авіябомбы. Стралялі з кулямётаў, таму было паранена чатыры чалавекі, на нашай вуліцы – Ганна Дзесюкевіч і Волесь Дзесюкевіч.

Вось такім трагічным і адначасова гераічным стаўся для магілян дзень 10 лістапада 1943 года. Калі б жыхары Магільнага і партызаны так самаахвярна не змагаліся з пажарам, шмат хто мог бы застацца без прытулку над галавой. А не за гарамі ж ужо былі зімовыя халады. Прыведзеная ў кнізе "Памяць. Уздзенскі раён" лічба 97 спаленых у той дзень пабудоў (стар.174) яўна завышаная, нават калі ўключыць у яе будкі для сабак і невялічкія прыбудовы да хлявоў для трусоў, якіх трымаў у сябе вельмі мала хто з нашых жыхароў.

Мне даводзілася паглядзець шмат мастацкіх фільмаў, прысвечаных жыццю мірнага насельніцтва пад акупацыяй, барацьбе партызанаў з нямецкімі захопнікамі, але ні разу не бачыў на экранах чагосьці падобнага на апісаны вышэй сюжэт. І дарэмна, бо гэта ж мела месца ў жыцці. Дэманстрацыя такога сюжэту сродкамі кінематографа дапамагла б яшчэ ў большай ступені раскрыць гераізм цывільных людзей у гады акупацыі.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

ВІНШУЕМ!

Святлана САХОНЕНКА:

# «Шукала спадарожніка на мора, а знайшла на ўсё жыццё»

*Трохразовая чэмпіёнка Паралімпіяды распавяла "Народнай Волі" пра перамогу на асабістым фронце.*

Гэты год для паралімпійкі **Святланы Сахоненка** будзе адметным удвая. У лютым наваполацкая спартсменка трыумфальна выступіла на Паралімпійскіх гульнях у Паўднёвай Карэі. У спорт пасля працяглай паўзы яна вярнулася за год (!) да стартаў у Пхёнчхане і адразу заваявала 4 (!) медалі – тры залатыя ў лыжных гонках і сярэбраны ў біятлонным спрынце.

*"За апошні час пахудзела недзе на 10 кілаграмаў*, – шчыра прызналася яна пасля перамогі. – *Гэта ўсё ад складаных трэніровак, арганізм, напэўна, не быў гатовы да такіх нагрузак. А мне патрэбна было ўсё і адразу, таму што ведала: без выніку не будзе заробку. Я гэта разумела і перад Алімпіядай, а таму на кон паставіла ўсё – і здароўе, і вольны час"*.

А ў мінулыя выхадныя ў жыцці спартсменкі адбылася яшчэ адна значная падзея – яна выйшла замуж.

– Распісаліся з мужам у загсе Фрунзенскага раёна Мінска, а ўрачыстасці праходзілі ў адным са сталічных кафэ, – кажа Святлана.



– Усяго было 65 гасцей, сярод іх – спартсмены і трэнеры. Адным словам, сабраліся самыя блізкія людзі.

**– Ваш муж мае нейкае дачыненне да спорту?**

– Ніякага, ён працуе майстрам на Мінскім аўтамабільным заводзе. Пазнаёміліся год таму. Так атрымалася, што я шукала спадарожніка на мора, а знайшла на ўсё жыццё.

**– Разам адпачывалі?**

– Напачатку я планавала адпачываць у Іспаніі са знаёмай. Купілі пуцёўкі. Але ў сяброўкі ў апошні час змяніліся планы, і яна адмовілася ад вандроўкі. Я ж пачала праз спецыяльныя сайты шукаць спадарожніка ў паездку, каб не было адной самотна. Так праз інтэрнэт-перапіску і пазнаёмілася з Дзянісам. Праўда, разам адпачыць тады не атрымалася, але ён мяне ўжо сустракаў, калі вярталася з Іспаніі. І з таго часу мы не расстаёмся. Я зразумела, што гэта маё і што гэтага маладога чалавека я ўжо нікуды ад сябе не адпушчу.

**– У вас ужо іншае прозвішча?**

– Не, пакуль пакінула сваё. Вельмі шмат дакументаў трэба мяняць, таму на зборы і спаборніцтвы буду выязджаць пад сваім прозвішчам. Але праз год, думаю, буду яго мяняць.

**– Жыллё сваё ўжо маеце?**

– Не, пакуль у Мінску здымаем кватэру.

**– І апошняе: мядовы месяц дзе будзеце праводзіць?**

– На жаль, нікуды паехаць не зможам. У мяне пачалася падрыхтоўка да сезона, таму не магу мяняць планы. Я ўжо, шчыра кажучы, і забылася, што было вяселле. Для мяне гэта звычайнае мерапрыемства, за якое я была ў адказе. А больш, як мне падаецца, нічога і не змянілася…

**Алесь СІВЫ.**

ГОЛ!

# На выжыванне…

*Сёння на чэмпіянаце свету па футболе пачынаюцца матчы ¼ фіналу.*

Гэта першынство – адно з самых непрадказальных. Ужо адправіўся дадому дзеючы чэмпіён свету – зборная Германіі. Як страшны сон будуць успамінаць пра сёлетні турнір іспанцы, якім зараз даюць "пад хвост" мясцовыя СМІ. "Зоркі" сусветнага футбола Месі і Раналду не здолелі дапамагчы камандам Аргенціны і Партугаліі.

У той жа час некаторыя матчы 1/8 фіналу павінны стаць прыкладам таго, з якім настроем і прагай да перамогі ўсім футбалістам трэба падыходзіць да любой гульні.

2 ліпеня. Бельгія–Японія. Безумоўны фаварыт – бельгійцы. За 20 хвілін да заканчэння матча гэты самы фаварыт прайграе аж 0:2! Японскія балельшчыкі ў экстазе, яны ўжо ў прадчуванні вялікага свята, але далей бельгійцы твораць проста цуд – на працягу пяці хвілін забіваюць два мячы, а на 94-й хвіліне гульні і наогул вырываюць перамогу.

3 ліпеня. Калумбія–Англія. Англічане забіваюць гол з пенальці, упэўнена кантралююць сустрэчу, да канца гульні застаюцца лічаныя секунды. Я не ведаю, з якіх крыніц чэрпалі сілы калумбійскія футбалісты, але праз 90 мінут гульні яны бегалі, як падавалася, нават хутчэй, чым на пачатку матча. І здолелі-такі на апошніх секундах зраўняць лік. Да жалю зборнай Калумбіі, у серыі пенальці англічане перамаглі і такім чынам перарвалі сумную традыцыю, бо да гэтага зборная Англіі тройчы ў серыях адзінаццаціметровых удараў на чэмпіянатах свету прайгравала. Але і перад калумбійцамі здымаю капялюш!

І, натуральна, у Расіі працягваюцца святкаванні з нагоды гістарычнай перамогі над іспанцамі. Варатару Ігару Акінфееву, які стаў героем пасляматчавых пенальці, нават прапанавалі даць званне Героя Расіі, хаця, на мой погляд, абедзве каманды паказалі такую гульню, якую футболам назваць вельмі цяжка. Аднак галоўнае тут, безумоўна, лік, а пераможцаў, як вядома, не судзяць. Зрэшты, як мне падаецца, дамашняя падтрымка і насамрэч шмат у чым дапамагае зборнай Расіі, якая на чэмпіянат трапіла без адборачных матчаў. Але гісторыя паказвае, што ў фанфары біць пакуль рана. У 2014 годзе зборная Беларусі па хакеі проста шыкоўна выступіла на дамашнім першынстве, але затым эйфарыя прайшла, і сёння каманда наогул вылецела з элітнага дывізіёна…

І напрыканцы – традыцыйныя навіны з чэмпіянату ад старшыні праўлення брэсцкага "Дынама" Дыега Марадоны. Аргенцінцы, як вядома, ужо вылецелі з турніру, а таму і легендарнаму футбалісту самы час вылятаць для работы ў "родны" Брэст.

*"Прывітанне! Гэта Дыега Марадона! Мы ўбачымся з вамі ў Беларусі 16 ліпеня. Таксама хачу пазнаёміцца з прэзідэнтам Лукашэнкам і пачаць працаваць у краіне"*, – такая заява размешчана ў "Інстаграме" прадстаўніка Беларуска-эмірацкага дзелавога саюза Таджэдзіна Сеіфа.

Напярэдадні ў замежнай прэсе з'явілася інфармацыя, што Марадона як старшыня праўлення "Дынама" выказаў зацікаўленасць у запрашэнні ў каманду 22-гадовага нападаючага галандскага ПСВ і зборнай Мексікі Ірвінга Ласана. Як бачым, Дыега часу не губляе! Засталіся нейкія дробязі: галандскі клуб ацэньвае Ласана ў 40 мільёнаў долараў, на футбаліста таксама прэтэндуюць італьянскі "Ювентус", англійскі "Арсенал" і іспанская "Барселона"... Брэсцкі клуб ужо адхрысціўся ад інфармацыі, што Марадона зацікавіўся мексіканцам, але, як мне падаецца, дарэмна. Як кажуць, гуляць дык гуляць!

**Алесь СІВЫ.**

### Вынікі матчаў 1/8 фіналу:

**30 чэрвеня**
Францыя–Аргенціна – 4:3
Уругвай–Партугалія – 2:1
**1 ліпеня**
Іспанія–Расія – 1:1 (перамога Расіі па пенальці)
Харватыя–Данія – 1:1 (перамога Харватыі па пенальці)
**2 ліпеня**
Бразілія–Мексіка – 2:0
Бельгія–Японія – 3:2
**3 ліпеня**
Швецыя–Швейцарыя – 1:0
Калумбія–Англія – 1:1 (перамога Англіі па пенальці)
**У ¼ фіналу згуляюць:**
**6 ліпеня:**
Францыя–Уругвай (17:00)
Бразілія–Бельгія (21:00)
**7 ліпеня**
Англія–Швецыя (17:00)
Расія–Харватыя (21:00)

ФУТБОЛ

# Брэсцкае «Дынама» раздае галы

*Адбыліся матчы 14-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: "Прамень" (Мінск) – БАТЭ (Барысаў) – 1:2, "Гомель" – "Дынама" (Брэст) – 0:6, "Іслач" (Мінскі раён) – "Слуцк" – 0:1, "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – "Тарпеда" (Мінск) – 1:0, "Нёман" (Гродна) – "Мінск" – 2:2, "Гарадзея" – "Віцебск" – 1:1, "Дынама" (Мінск) – "Днепр" (Магілёў) – 2:1, "Шахцёр" (Салігорск) – "Смалявічы" – 1:0.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 14 | 11 | 2 | 1 | 23–7 | 35 |
| Дынама (Мн) | 14 | 9 | 4 | 1 | 19–7 | 31 |
| Віцебск | 14 | 8 | 4 | 2 | 19–9 | 28 |
| Шахцёр | 14 | 8 | 4 | 2 | 16–5 | 28 |
| Нёман | 14 | 7 | 4 | 3 | 16–12 | 25 |
| Тарпеда-БелАЗ | 14 | 7 | 3 | 4 | 14–9 | 24 |
| Слуцк | 14 | 7 | 3 | 4 | 17–10 | 24 |
| Дынама (Бр) | 14 | 5 | 7 | 2 | 26–17 | 22 |
| Іслач | 14 | 3 | 6 | 5 | 8–13 | 15 |
| Смалявічы | 14 | 3 | 4 | 7 | 10–13 | 13 |
| Мінск | 14 | 2 | 5 | 7 | 15–19 | 11 |
| Днепр | 14 | 2 | 4 | 8 | 8–19 | 10 |
| Тарпеда | 14 | 2 | 4 | 8 | 6–18 | 10 |
| Гомель | 14 | 2 | 4 | 8 | 6–20 | 10 |
| Прамень | 14 | 2 | 3 | 9 | 10–24 | 9 |
| Гарадзея | 14 | 1 | 5 | 8 | 9–20 | 8 |

МАЗАІКА

## Пралёт

Два аргенцінскія балельшчыкі былі затрыманы за тое, што запусцілі квадракоптар на Чырвонай плошчы.

Магчыма, госці расійскай сталіцы хацелі такім чынам зрабіць з дапамогай тэхнікі прыгожыя фота на памяць, але ў выніку любавацца імі будуць супрацоўнікі МУС Расіі: квадракоптар у аргенцінцаў канфіскавалі.

## Лёў застаецца

Нямецкі футбольны саюз не будзе разрываць кантракт з галоўным трэнерам зборнай Германіі Ёахімам Лёвам.

Як паведамляе Bild, кіраўніцтва прыняло рашэнне пакінуць спецыяліста на гэтай пасадзе да 2022 года.

Нагадаем, што Лёў узначальвае зборную Германіі з 2006 года. На сёлетнім першынстве немцы ў рангу дзеючых чэмпіёнаў не толькі не змаглі выйсці з групы, але занялі ў ёй апошняе месца.



## Не перадумае?

Бізнесмен і ўладальнік чатырох бараў у Екацярынбургу Яўген Кексін перад пачаткам чэмпіянату свету паабяцаў перапісаць увесь свой бізнес на галоўнага трэнера зборнай Расіі Станіслава Чарчэсава, калі каманда выйдзе ў фінал.

Пасля перамогі расіян у 1/8 фіналу бізнесмен заявіў, што ён не адмаўляецца ад сваіх ранейшых абяцанняў і гатовы стрымаць слова ў выпадку ўдалага выступлення расійскай каманды.

## Колькі заробяць каманды?

Пасля перамогі зборнай Расіі над іспанцамі Расійскі футбольны саюз атрымае ад ФІФА не менш за 16 мільёнаў долараў.

Па выніках групавога этапу РФС зарабіў 12 мільёнаў (8 мільёнаў за ўдзел, 4 мільёны – за выхад у плэй-оф). Яшчэ 4 мільёны склалі прызавыя за выхад у чвэрцьфінал.

Агульны прызавы фонд складае 400 мільёнаў долараў. Пераможца атрымае 38 мільёнаў, віцэ-чэмпіён – 28 мільёнаў, бронзавы прызёр – 24 мільёны долараў. Выплаты за 4-е месца складуць 22 мільёны.



